# Бальшавікі атакуюць БНР

На мінулым тыдні да нас дастаўся адзін перабежчык з-за зялезнай заслоны, які нам прынёс 6 апошніх нумароў Менскай «Зьвязды». У кажным з гэтых нумароў, органу бальшавіцкай партыі Беларусі, прысьвячаецца шмат месца «выкрыцьцю» беларускіх нацыяналістых, «зашыўшыхся» ў розных дзялянках культурнага й гаспадарскага жыцьця савецкае Беларусі.

Асабліва вялікі артыкул знаходзім у № 185 «Зьвязды» за 15 верасьня 1951 г., які зьяўляецца прысьвечаным БНР-аўскай акцыі ў 1917—1920 г. г. Артыкул займае цэлую балонку «Зьвязды» на 6 шпальтаў. Затытулаваны ён тлустымі цэнтымэтравымі літарамі — **«Амэрыканска - ангельскія імпэрыялісты — зьлейшыя ворагі беларускага народу»** з драбнейшым падзагалоўкам — **«Матарыялы, якія выкрываюць крывавыя злачынствы імпэрыялістых ЗША й Англіі на Беларусі ў 1917—1920 г. г. і расказваюць аб правале іх агрэсыўных плянаў».**

Унізе артыкулу няўдала намаляваныя два «павешаныя» «беларускія патрыёты» (няўдала, бо адзін з «павешаных» мае вясёлую міну, чуць не сьмяецца). Гэты малюнак мае прадставіць ахвяраў амэрыканска — БНР-аўскага тэрору(!?).

Падаём тут нашым чытачом скарочаны тэкст гэтага артыкулу, ці, як кажа «Зьвязда», «матарыялаў», якія маюць раскрыць «злачынствы» ЗША, Ангельшчыны й БНР у 1917—20 г. г., апусьціўшы, зразумела, месцы, дзе выхваляецца «гэніяльнасьць» Леніна й Сталіна, як лішні баляст казённай ляпатні бальшавікоў.

Восьжа тэкст, пададзены намі ў правільнай беларускай мове, а не ў беларуска-расейскім жаргоне, які накінуты ў БССР:

«Імпэрыялістыя імкнуліся скалаціць у Беларусі нутраную контррэвалюцыю й накіраваць яе на змаганьне супраць савецкай улады. Яшчэ ў жніўні 1917 г. з заўзятых ворагаў беларускага народу была створаная буржуазна-нацыяналістычная Беларуская Рада. У канцы кастрычніка таго-ж году ў Менску былі створаны контррэвалюцыйны «Камітэт Ыратаваньня Радзімы й Рэвалюцыі». У Магілёве пад аховай стаўкі рыхтавалася буйная контррэвалюцыйная змова, на чале якой стаяў япіскап Сьвятаполк Мірскі, які падтрымліваў цесную сувязь з прадстаўнікамі замежных місыяў. Скалачвалася контррэвалюцыя й у іншых гарадох. «Беларуская Рада» разам з выканкомам ваенных арганізацыяў сабрала «Беларускі Кангрэс» з мэтай вырашыць пытаньне аб лёсе Беларусі — г.зн. адарваць Беларусь ад Савецкай Расеі й зрабіць яе дадаткам да аднаго з капіталістычных гаспадарстваў» . . . Далей ідзе пахвала Сталіну й Леніну за расправу над беларусамі.

«Але імпэрыялістыя ня спыніліся. Праваліўшыся із сваімі падкопамі ў першыя дні перамогі Кастрычнікавай Рэвалюцыі, заправілы Уол-Стрыту й Сіты робяць наступную стаўку — на кайзэраўскую Нямеччыну. Яны ўсяляк імкнуцца ўцягнуць савецкую Расею ў вайну зь Нямеччынай, штурхаючы нямецкіх імпэрыялістых на ўсход . . .»

«Але нямецкім імпэрыялістым, таксама як і амэрыканскім і англейскім манапалістым, не ўдалося ажыцьцявіць сваіх чорных замыслаў. К канцу 1918 г. чырвоная армія, пры падтрымцы народаў Беларусі й Украіны, вышвырнула полчышчы нямецкіх імпэрыялістых з нашай зямлі . . .» Але «змагаючыся супраць краіны саветаў, імпэрыялістыя ўзброівалі й скалочвалі нутраную контррэвалюцыю. Намаганьнямі амэрыканскіх захопнікаў і на іх грошы ствараліся на тэрыторыі Беларусі белагвардзейскія аддзелы, у якія зьбіраліся сынкі сьціснутых памешчыкаў і капіталістых, кулаччо, былыя ахвіцэры й уся іншая контррэвалюцыйная нечысьць . . .»

«У 1918 г., у пэрыяд нямецкай акупацыі, беларуская контррэвалюцыя выконвала ўказаньні нямецкага камандаваньня, а празь яго — волю імпэрыялістых ЗША й Антанты, якія імкнуліся рукамі нямецкіх інтэрвэнтаў задушыць савецкую ўладу.

Па халопску ўніжаючыся перад захопнікамі, беларускія нацыяналістыя, сябры г. зв. «Беларускай Рады» ў красавіку 1918 г. зьвярнуліся з прывітальнай тэлеграмай да Вільгэльма, у якой дзякавалі нямецкім імпэрыялістым за «вызваленьне Беларусі» й прасілі **«абараніць у яе дамаганьнях да стварэньня гаспадарстваўскай незалежнасьці й непадзельнасьці Беларусі ў саюзе зь нямецкай імпэрыяй»** (падчыркнута ў «Зьвяздзе»).

Пры дапамозе іншаземных захопнікаў беларускія буржуазныя нацыяналістыя стварылі белагвардзейскія аддзелы — «беларускае войска» для выканаьня агрэсыўных плянаў імпэрыялістых. Гэтымі аддзеламі інтэрвэнты прабавалі захапіць таксама й усходнюю частку Беларусі. У красавіку 1918 г. ў перапісцы зь нямецкім паслом сябры «Беларускай Рады» згаджаліся на тое, каб **«зарганізаваць свае сілы для ўстанаўленьня сваей улады ўва ўсходняй частцы Беларусі, цяпер акупаванай бальшавікамі»** (падчыркнута ў «Зьвязьдзе»).

Пасьля выгнаньня нямецкіх захопнікаў імпэрыялістыя ЗША, Ангельшчыны й Францыі непасрэдна кіруюць падрыхтавальнай дзейнасьцю беларускіх нацыяналістых. Яшчэ ў канцы 1918 г. адбыўся абмен пісьмамі паміж «Беларускай Радай» і амэрыканскім урадам. 26 кастрычніка 1918 г. незадоўга да выгнаньня нямецкіх захопнікаў, Рада зьвярнулася зь пісьмом да прэзыдэнта ЗША Вільсона, у якім па рабску прасмыкалася й лісьлівіла перад заправіламі Уол-Стрыту: **«У імя культуры й чалавечнасьці, у імя гуманнасьці, абвешчаных панам прэзыдэнтам Паўночна-Амэрыканскіх Задзіночаных Штатаў, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі просіць выратаваць безбаронную Беларусь ад разгрому й з гэтай мэтай цяпер-жа да адыходу акупацыйнай арміі забясьпечыць ей вонкавую недатыкальнасьць прызнаньнем яе самастойнасьці й незалежнасьці й нутраную бясьпеку перадачай у рукі Рады ўсей паўнаты грамадзкай улады ў краі»** (падчыркнута ў «Зьвяздзе»). Амэрыканскія кіруючыя колы запэўнілі «Беларускую Раду» ў поўнай падтрымцы яе антысавецкіх накіраваньняў.

Праз некаторы час Рада, разам зь летувіскай контррэвалюцыйнай Тарыбай, паслала дэлегацыю ў Лёндан. Сябры Рады былі прыняты Лейд Джорджам і таксама атрымалі запэўненьне ў падтрымцы Рады ў яе антысавецкім змаганьні. У канцы студзеня 1919 г. імпэрыялістыя ЗША й Антанты запрасілі прадстаўнікоў «Беларускай Рады» на міжсаюзную нараду ў Ясы, дзе сябра Рады Некрашэвіч, выпрашываючы дапамогу ў Антанты, прапанаваў прадаць Беларусь Антанце пры ўмове

(Заканчэньне на 4 балоне)

# Пануючая й паняволеныя нацыі СССР

(Заканчэньне на бал. 4)

**русаў.** Возьмем да гэтага некаторыя прыклады з менскай газэты «Зьвязда». Гэтак у нумары за 27 ліпеня была пададзеная справаздача аб VII пленуме камсамолу Беларусі, на якім выступалі наступныя акруговыя й раённыя сакратары камсамолу, як **Машэраў, Шабашаў,** Сінькевіч, Мікуліч, **Аксёнаў, Сімвалокаў, Арцёмаў, Белая, Гарбуноў,** старшыня прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР **Казлоў,** сакратары ЦК КПБ **Зімянін, Абрасімаў, Макараў.** А ў нумары за 29 ліпеня знаходзім справаздачу аб сходзе інтэлігенцыі гораду Менску, у прэзыдыюм якога былі выбраныя наступныя «беларусы», як найбольш адказны асобы беларускае сталіцы: **Патолічаў, Кляшчоў, Казлоў, Зімянін, Цанава, Цімашэнка, Гарбуноў, Абрасімаў, Ганенка, Машэраў, Мазураў, Варвашэня, Лубеньнікаў,** Саламаха, **Уралава,** Якуб Колас, **Новікава,** Лутновіч, **Чымбург, Губкін,** Броўка, **Кокін,** Бранавіцкі, Дарашэвіч, **Краўцоў, Бембель.**

Ня трэба быць філялёгам, каб ведаць, што расейскія прозьвішчы на **-ов** і **-ін** спатыкаюцца сярод беларусаў толькі як рэдкія выключэньні. Але ў пераліку інтэлігенцыі, што займае кіраўнічыя становішчы ў БССР, знаходзім зьявішча зусім адваротнае: там рэдкімі выключэньнямі зьяўляюцца прозьвішчы беларускія.

Нікіцін, які, да рэчы, прэтэндуе да ролі экспэрта нацыянальных дачыненьняў на падсавецкіх тэрыторыях павінен быў-бы ведаць, што ў спэцыфічных умовах СССР удзел у публічным жыцьці мясцовага насельніцтва яшчэ нічога не гаворыць аб загарантаваньні ягоных нацыянальных правоў. На Беларусі маглі-б, прыкладам, усе кіраўнічыя становішчы быць абсаджанымі ў 100% беларусамі й палажэньне ад гэтага не зьмянілася-б. Чалавеку, які бярэцца пісаць аб СССР, трэба ведаць, што ўсе антынародныя мерапрыемствы праводзяцца там рукамі самога народу. Гэтак і русыфікацыя на Беларусі праводзіцца ў пераважнай меры самымі-ж беларусамі, на Украіне — украінцамі, у Грузіі —Грузінамі, у Армэніі — армянамі й г.д. Спадзяёмся, што на гэтай падставе сп. Нікіцін не захоча рабіць ня менш рэвэляцыйнага «адкрыцьця», што беларусы дабравольна праводзяць у жыцьцё гэтыя мерапрыемствы «партии и правительства», бо на токай-жа самай падставе трэба было-б кансэквэнтна згадзіцца з тым, што расейскі народ дабравольна паддзержывае ўсю палітыку палітбюра.

Усякія межы цынізму пераходзіць цьверджаньне, што «ігра на расейскім патрыятызьме ў вапошняе дзесяцігодзьзе нічога не зьмяніла», бо «нацыянальная форма асталася». Якая нацыянальная форма? Ужо перад другой сусьветнай вайной той зь беларускіх інтэлігентаў, які ў публічным жыцьці БССР заўсёды паслугоўваўся беларускай, а не расейскай мовай, быў наражаны на закід у нацыяналізьме, зачым, як неадлучны вынік, ішло перасьледваньне. Беларуская мова, якая з чыста прапагандовага гледзішча яшчэ дагэтуль талеруецца ў прэсе, радыё й у вельмі абмежаванай ступені ў школьніцтве, дзякуючы г. зв. «рэформае беларускага правапісу» з 1933 г. і далейшай русыфікацыйнай практыцы, зьяўляецца ўжо не беларускай мовай, але штучным беларуска-расейскім жаргонам, які зьяўляецца аднэй із стадыяў да поўнага пераходу на расейскую мову. Але Нікіцін вітае гэты жорсткі паход Масквы супраць нерасейскіх моваў народаў Савецкага Саюзу. Ён у дачыненьні да ўкраінцаў гаворыць, што «Украінская Акадэмія Навук прыступіла да вызваленьня ўкраінскае мовы ад таго слоўнікавага матарыялу, які быў унесены ў пэрыяд «скрыпнікаўшчыны» паводля прынцыпу «хоть гірше абы інше», і на гэтай падставе сьцьвярджае, што русыфікацыя была «вельмі й вельмі адноснай».

Абнаглелы расейскі мэсыянізм і ягоная тэорыя аб вышэйшасьці расейскага народу, паводля расейскіх эмігрантаў, мае толькі «прапагандовы характар». На большы цынізм ужо нельга здабыцца! Кажнаму, хто хоць трохі цікавіцца сяньняшнім падсавецкім жыцьцём, дастаткова ведама, што расейскі мэсыянізм, разьдзьмуханы бальшавікамі й падтрымліваны навет іхным паліцыйным апаратам, зьяўляецца сяньня асаўным зьместам палітыкі Крамля й «ленінска-сталінскай генэральнай лініі» й служыць магутнай базай савецкага імпэрыялізму. Мэсыяністычныя канцэпцыі выходзяць далёка за межы Савецкага Саюзу й ягоных сатэлітаў. Гэты мэсыянізм мае сусьветныя мэты, бо расейскі народ, паводля мэсыяністычнай тэорыі апошняга часу, зьяўляецца «вялікім», «найбольш геніяльным»», «найбольш перадавым», «найбольш прагрэсыўным» і «вядучым» ня толькі сярод народаў Савецкага Саюзу, але й сярод усіх народаў сьвету.

Паўстае тады пытаньне, на што і для каго патрэбнае такое грубое хвальшаваньне некаторымі расейскімі эмігрантамі падсавецкай запраўднасьці? Украінская газэта «Сучасна Украіна» за 14 кастрычніка называе гэтае зьявішча «расейскім дальтанізмам у нацыянальным пытаньні». Але такое вытлумачэньне зьяўляецца няправільным. Дальтонская хвароба, якая палягае на няздольнасьці разрозьніваньня колераў, зьяўляецца зьявай незалежнай ад волі хворага, за якую ён ня можа й паносіць ніякай адказнасьці. Затое ніяк ня можна дапусьціць, што тыя расейцы, якія цьвердзяць аб адсутнасьці нацыянальнага паняволеньня нерасейскіх народаў у Савецкім Саюзе, ня ведаюць, што робяць. Бо ў праціўным выпадку што найменей бальшыня расейскіх эмігрантаў мусіла-б быць хворай на дальтанізм.

**Адзіным тады вытлумачэньнем такога зьявішча можа быць імкненьне расейскіх імпэрыялістых апраўдаць за ўсякую цану Сталінскую дэнацыяналізацыйную палітыку ў дачыненьні да нерасейскіх народаў, апраўдаць таму, бо такую-ж палітыку вызнаюць і яны самі. Гэтым яны ня толькі паказваюць** сябе ў ролі лютых ворагаў нерасейскіх **народаў, але таксама робяць вельмі дрэнную ўслугу для заходніх дэматратыяў, прыносячы ім хвальшывыя інфармацыі, як і для самых сябе, выстаўляюць ня вельмі пахвальны атэстат заўзятых русыфікатараў.**

## Ад'езд прэзыдэнта М. Абрамчыка у ЗША

**У нядзелю 21 кастрычніка ад'ехаў з Парыжу ў Нью Ёрк Прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык. Галоўнай мэтай паездкі сп. Прэзыдэнта, ак даведваемся, будзе правядзеньне 6-ай сэсыі Рады БНР, якая адбудзецца ў міжчасе 28.10 і 4.11. сёлета. На сэсыі мае быць прысьвечана асаблівая ўвага сучаснай вонкавай сытуацыі. На парадку дня стаіць таксама выбары новага Ураду БНР. Прэзыдэнт Абрамчык мае на мэце адведаць некаторыя важнейшыя беларускія асяродкі ў ЗША й Канадзе, а таксама й іншанацыянальныя палітычныя цэнтры.**

**Паварот сп. Прэзыдэнта ў Эўропу прадбачыцца за паўтара або два месяцы. Аб выніках сэсыі Рады, як і паездкі сп. Прэзыдэнта будзе ў свой час пададзена ў «Бацькаўшчыне».**

задавальненьня мясцовых патрэбаў. Цяпер-жа яны здаюцца на месцы на нарыхтоўчыя пункты й сульфіруюцца, г. зн. перасыпаюцца спэцыяльным парашком, які захоўвае ягаду на некалькі месяцаў ад псаваньня. Як звычайна, лепшая ягада адбіраецца, расфасоўваецца ў прыгожую пасудзіну й у сульфіраваным стане адпраўляецца на экспарт, галоўным чынам у Ангельшчыну. Усё няпрыгоднае на экспарт здаецца на фруктавінны завод, які знаходзіцца ў вялікай вёсцы Рэчкі. На заводзе з розных ягад і садавіны вырабляецца мармаляда й шмат малаалькагольнага віна.

Сьвежых ягад ні ў Ветцы ні ў Гомелі цяпер амаль не дастаць. Савецкім плянавіком забаронена плянаваць так, каб сьвежая прадукцыя хоць калі-ні-калі пападала працоўнаму чалавеку. Ягады й садавіна павінны прайсьці цэлае кола нарыхтоўчых арганізацыяў, потым перапрацоўчых пунктаў і прадпрыемстваў, разьмеркавальных інстанцыяў, рэспубліканскіх, акруговых і раённых гандлёвых аптовых складаў. Пэўне-ж, пакуль пападзе што-небудзь спажыўцу, то ўсё лепшае згіне па дарозе, не гаворачы ўжо аб тым, што па дарозе нармальным спосабам губляюцца ўсе вітаміны сьвежага прадукту, яго смак і іншыя асаблівасьці. Затое ўжо гэтая мармаляда або віно абрасьце markнымі выдаткамі, накладкамі й гаспадарстваўскімі падатамі. А што мае ад гэтага спажывец? Асалоду паслухаць цераз радыё й прачытаць у газэтах, што фруктавінны завод або якая-небудзь гандлёвая база выканала свой квартальны плян больш чым на сто процантаў.

У раёне ёсьць залежы зялезнай руды, аб чым сьветчаць астаткі саматужных распрацовак руды, а некалькі вёсак і цяпер носяць назвы Рудні, прыкладам Рудня Марымонаўская, Агародніцкая, Гомельская й г. п. У ўсходняй частцы раёну ёсьць вёска пад назвай Рудня. Вёска гэтая бедная з дрэннай неўрадлівай глебай і заселеная палякамі. У далёкія прыгонныя часы мясцовы абшарнік для распрацоўкі зялезнай руды прывёз із Сілезіі некалькі польскіх гарнякоў. Калі распрацоўка руды стала саматужным спосабам не рэнтабільнай, сілесцы былі надзелены невялікай колькасьцю зямлі, дзе яны й аселі. Вырасла новае пакаленьне, паступова забываліся свае нацыянальныя навыкі, толькі захавалася між імі каталіцтва, і ў вёсцы быў касьцёл, які цяпер можа перароблены на сьвіран або мясцовы клюб.

Горад Ветка раськінуўся на левым беразе Сожы, налічвае да 15 тысячаў жыхароў, мае прыстань і добрую сувязь з Гомелем шасою, а летам па рэчцы параплавамі. Пераважная частка насельніцтва гораду й прырэчных вёсак зьяўляецца зьвязанай з Сожам. У Ветцы будуюцца новыя лайбы, баржы, абшыванкі ня толькі для мясцовых патрэбаў, але й для збыту. Праводзіцца бягучы й капітальны рамонт суднаў. Судны трэба канапаціць, заліваць смалою, смаліць. На ўсё гэта патрэбны ня толькі рукі, а й спэцыяльныя веды, навыкі, практыка. Шырокія работы па будаўніцтве й рамонце суднаў спрычыняліся да разьвіцьця промыслу па вырабу розных канатаў і вяровак, якія ў вялікай колькасьці патрэбныя пры навігацыі. Прырэчная вялікая вёска Старое Сяло спрадвеку ведамае, што дае спрытных матросаў, лоцманаў, рулявых ды навет капітанаў. У раёне загатаўляецца многа рознай сельска-гаспадарскай сыравіны, якая яшчэ больш павялічваецца дастаўкамі із суседняга Сьвяцілавіцкага раёну ракою Бесядзь, што ўпадае ў Сож. Напасьледак трэба задаволіць хоць мінімальныя патрэбы насельніцтва двух гэтых раёнаў таварамі з гораду. Работы веткаўцам хапае.

У Веткаўскім раёне ёсьць цікавае возера. Яно вельмі рыбнае, заросшае чаротам і плаўнямі. Пра яго сярод насельніцтва ходзіць многа розных легендаў, бо на возеры чуваць моцныя гукі, чаму яно й называецца «Равучае». Прычыны гэтых гукаў пэўне яшчэ не дасьледаваныя. Ёсьць думка, што паміж возерам і надалёкай ад яго рэчкай Іпуць ёсьць прыродны падземны канал, што й зьяўляецца прычынаю таемных гукаў. Дно возера закіданае вялізарнымі дрэвамі.

На ўсход ад Веткаўскага раёну знаходзіцца Сьвяцілавіцкі раён, насельніцтва якога займаецца сельскай гаспадаркай. У раёне садзіцца многа бульбы, якая перапрацоўваецца на мясцовым крахмальным заводзе. Раённы цэнтр месьціцца ў вёсцы Сьвяцілавічах у 40 клм. ад Веткі. Раён перасякае рэчка Бесядзь, прыток Сожа, па якой ходзяць невялікія параплавы.

Але разьвітаемся з рухавай і прадпрыемчывай Веткай і на параплаве спусьцімся ніжэй па Сожу й дасягнем Гомеля. Тут мусім пакінуць шустры параплаўчык, бо далей Гомеля ён ня ходзіць, і перасядзем на другі, якім можна ўжо даплысьці аж да сталіцы Украіны — Кіява. Ад Гомеля да Кіява ходзіць некалькі параплаваў, але па свайму абсталяваньню, магутнасьці, вонкаваму выгляду ды камфортнасьці параплавы гэтыя вельмі розныя. Пападаем на лепшы зь іх і адплываем з Гомельскай прыстані. Мінаем хвабрычную Нова-Беліцу, далей любуемся цудоўнымі лясістымі берагамі Кленак ды прыгожых Чонак. Плывём ужо па Церахойскаму раёну сярод сакавітых заліўных сенажацяў. Яшчэ некалькі кілямэтраў і ўжо наш Сож зь левага боку абмывае сучасную Чарнігаўскую акругу Украінскай ССР. Але краявід, гаворка, песьні насельніцтва, быт і звычаі тыя-ж самыя, беларускія.

Сустракаецца Сож з Дняпром у Лоеве. Ад Смаленскіх узвышшаў да Лоева Сож прарабіў карысную для народу вандроўку на шляху 560 кілямэтраў. У Лоеве Сож аддае свае воды Дняпру. Наш параплаў нейкі час плыве далей, мінаючы прыстань, але некалькі яшчэ крокаў і ён робіць плаўны паварот ды падыходзіць да лоеўскай прыстані. Спакойная каманда, закідаюцца канаты на прыгальныя стаўбы й параплаў прышвартоўвае к памосту прыстані. Безь мятусьні й пасьпеху значная частка людзей пакідае параплаў і з сваімі клумкамі падыймаецца ўверх на гару ў мястэчка да сваіх хат або да знаёмых. Частка-ж пасажыраў застаецца ў залі прыстані чакаць параплаў, які пойдзе ўверх па Дняпру. Лоеўская прыстань — гэта рачны вузел, зь якога можна наведаць многія мясьціны Беларусі. З далёкай Оршы па Дняпру можна праз Шклоў, Магілёў, Быхаў, Рагачоў, Жлобін, Рэчыцу, Холмеч даплысьці ў Лоеў. Пры мястэчку Горваль Рэчыцкага раёну ўпадае ў Дняпро Бярэзіна, якая з Дняпроўскім і Сожскім басэйнамі лучыць Бабруйск і Барысаў, які знаходзіцца ў 70 клм. ад сталіцы Беларусі Менску. У баку застаецца Палесьсе зь ягонаю воднаю жылаю Прыпяцьцю, якая ўпадае ў Дняпро далёка ніжэй ад Лоева на мяжы з Украінай. Вось чаму на Лоеўскай прыстані заўсёдны людзкі рух, многа ўсякага тавару й сыравіны. Усё гэта сартуецца, запакоўваецца, зносіцца або пераносіцца з параплаваў, лайбаў, баржаў, дубоў. Праз Лоеў праходзіць на Украіну многа розных лясных матарыялаў, асабліва стояк для ўмацаваньня шахтаў.

Прырэчнае насельніцтва Лоеўскага раёну занятае на Дняпры: на плытох, параплавах, на рамонце суднаў, рыбалоўстве. Глеба ў раёне пераважна пясковатая, патрабуючая ўгнаеньня, але добрыя сенажаці стварылі ўмовы для разьвіцьця жывёлагадоўлі. Само мястэчка Лоеў шырака раськінулася на высокім пяшчаным беразе Дняпра. Сувязь зь левым берагам Дняпра ажыцьцяўляецца пры помачы парому, які ляжыць на «дубох». У Лоеве працуе хвабрыка хварбаў, што вырабляюцца з глінаў, якімі багаты ў гэтых мясцох абрывісты правы бераг Дняпра. Хвабрыка носіць назву «Краска цьвет». Хварбы маюць добры збыт на розных будаўніцтвах. У старыя часы Лоеў быў крэпасьцю, аб чым сьветчаць земляныя валы. На беразе Дняпра знаходзіцца харошы парк і сады, якія надзвычайна ўпрыгожваюць Лоеў, які й так зьяўляецца аднэй з прыгажэйшых мясьцінаў нашага краю. Уверх па Дняпру на ягоным абрывістым беразе ляжыць вёска Судкаў. Там у былым маёнтку з прыгожым палацам памяшчаецца школа сялянскай моладзі. Яшчэ ўверх па Дняпру ляжыць досыць значнае мястэка Холмеч.

У куце паміж Дняпром і Прыпяцьцю знаходзіцца найбольш паўдзённы раён Беларусі — Камарынскі. У Камарыне спэцыяльнай прыстані на Дняпры няма. Параплавы падходзяць к берагу і па кладках праводзіцца пасадка пасажыраў і пагрузка або выгрузка тавараў. У Камарынскім раёне берагі Дняпра нізкія й у часы паводак, асабліва вясною, заліваюцца на далёкую адлегласьць. Вада падыходзіць да самай вёскі Камарына, якая знаходзіцца на пяшчаным бугры. Пры берагох Дняпра ёсьць многа досыць вялікіх і глыбокіх вымоінаў. У часы паводкі яны напаўняюцца вадою, якая ня высыхае й летам. У гэтых азёрцах звычайна водзіцца шмат рыбы. Прыбярэжныя заліўныя сенажаці прыносяць высокія ўраджаі. Лепшыя сенажаці нацыяналізаваныя, дзе зарганізаваныя спэцыяльныя сенныя гаспадаркі. Сена ад гэтых сенажацяў прасуецца й адпраўляецца ў іншыя мясцовасьці.

Насельніцтва раёну займаецца сельскай гаспадаркай і жывёлагадоўляй. Зь левым Чарнігаўскім берагам Дняпра Камарынскі раён лучыць доўгі дзеравяны мост, пабудаваны за некалькі гадоў перад вайною. Праз Камарынскі раён праходзіць чыгунка з усходу на захад ад Чарнігава на Оўруч. Гэтая чыгунка таксама пабудаваная толькі перад вайною. Яна трохі ажывіла гэты далёкі глухі раён і зрабіла яго больш даступным зімою.

Раённы цэнтр месьціцца ў невялікай вёсцы Камарын.

С. Горвальскі

(Заканчэньне ў наступным нумары)

# СНЫ «АБ ВЯСЬНЕ ПРЫГОЖАЙ І ДАЛЁКАЙ»

## Канстанцыя Буйла — новая ахвяра бальшавіцкай крытыкі

Адзінай пасьля А. Цёткі прадстаўніцаю жанчын у беларускай нашаніўскай літаратуры была Канстанцыя Буйла, мяккі й мэлянхалічны лірызм якой зьяўляўся галоўнай азнакай ейнае творчасьці. Не паэтыцкія вобразы й слоўныя сродкі экспрэсыі, але іменна гэты мяккі й чулы лірызм зблізіў ейную паэзыю да народнае творчасьці й рабіў яе псыхалягічна блізкай для беларускага чытача.

Вершы Канстанцыі Буйлы паявіліся перад першай сусьветнай вайной у зборніку «Курганная кветка», а беларуская патрыятычная песьня на ейныя словы «Люблю наш край, старонку гэту» была прынятая беларускім народам, як адна з найпапулярнейшых ягоных песьняў. Калі ў 1934 г. польскія настаўнікі вясковых школаў на тэрыторыі Наваградчыны на загад школьнага інспэктарыяту праводзілі запісваньне беларускай народнай творчасьці сярод мясцовага сялянства, дык вельмі часта напатыкаліся на гэтую песьню, й запісвалі яе, як зложаную самым народам — народную. Гэта найлепшы доказ папулярнасьці Буйлы, якая змагла глыбака адчуць і перадаць мастацкім словам духовыя перажываньні беларуса.

Паміж першай і другой сусьветнай вайной, на працягу звыш 25 гадоў, бадай нікому зь беларусаў ня прыходзілася ня толькі сустракаць новых твораў К. Буйлы, але й наагул пачуць штонебудзь аб выдатнай паэтцы. Мне прыпадкова ўдалося даведацца восеньню 1940 г. ад Янкі Купалы, што Буйла, будучы ўжо паджылай, але шустрай жанчынай, пражывае ў Маскве й літаратурнай творчасьцю болей не займаецца. Была гэта сумная й адначасна радасная вестка. Сумная таму, што замоўк, праўдападобна назаўсёды, як магло тады здавацца, адзін з найбольш арыгінальных беларускіх паэтыцкіх талентаў. Радавацца прыходзілася таму, што Буйла яшчэ жыве й што можа лепей, што нічога ня піша, бо ў праціўным выпадку магла-б ужо даўно стацца ахвяраю бальшавіцкага тэрору, як дзесяткі й сотні іншых выдатных мастакоў беларускага слова. У той час, аб якім тут мова, спасярод вялікае колькасьці беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў із старэйшае гэнэрацыі, апрача Буйлы, былі ўцалелі толькі тры: Янка Купала, Якуб Колас і Зьмітрок Бядуля.

Цяперака даведваемся, што пасьля апошняй вайны Буйла ўзнавіла сваю паэтыцкую дзейнасьць, а дзеля гэтага, зразумела, сталася, як і ўсе іншыя паэты й пісьменьнікі нерасейскіх народаў, ахвяраю войстрых нападаў з боку бальшавіцкае крытыкі. У ваднным з нумароў менскае «Зьвязды» (№ 149 за 27 ліпеня 1951 г.), якія нядаўна папалі ў мае рукі, знаходзім вялізарны артыкул нейкага расейца Г. Шчарбатава п. н. «У палоне скажоных уяўленьняў і архаічных вобразаў», у якім слаўная беларуская паэтка цяжка абвінавачваецца ў вадыходзе ад сучаснай бальшавіцкай запраўднасьці, у ідэалягічных скрыўленьнях (паводля «Зьвязды» — у «скажэньнях»), а галоўнае ў беларускім нацыяналізьме, значыцца ўва ўсіх тых праступленьнях, якія апошнім часам высоўваюцца ўсім беларускім паэтам.

У другім нумары літаратурнага часапісу «Полымя» за 1951 г. Буйла надрукавала цыкль сваіх вершаў, спасярод якіх лірычны верш «Сьнег» першым папаў пад абстрэл казённага бальшавіцкага крытыка. Цытуем за «Зьвяздой» некаторыя вобразы твору із злоснымі заўвагамі крытыка:

«Паэтка стварае ідылічны малюнак «добрага вечара» ў «утульнай сьвятліцы», калі на дварэ «сьнег пахучы, пуховы зямлю атуліў», а «ў печы агеньчык яшчэ не пагас». Буйла ўміляецца гэтым архаічным малюнкам і ў захопленьні ўсклікае:

«Скуль такая на сьвет наплыла<br>[цішыня?»

Аб якой «цішыні на сьвеце» гаворыць паэтка? Няўжо яна не разумее, што супярэчыць сама сабе, што амэрыканскія бомбы ў Карэі ... не даюць ніякага права гаварыць аб цішыні на сьвеце. Але Буйла разьвівае думку далей:

«Мне здаецца тады, што ў тэй старане,<br>Дзе калісьці матуля расьціла мяне,<br>Дзе таксама прыціх і цябе акрыліў<br>Маладосьці і мар белапенны прыліў.»

Аказваецца вось для чаго спатрэбілася «цішыня на сьвеце» К. Буйле. Яна патрэбна ей для таго, каб сказіць (пакідаем гэты русыцызм дзеля лепшага перададаньня думак «Зьвязды» — Рэд.) праўду аб беларускім народзе.

Беларускі народ пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў, у дружнай сям'і савецкіх народаў зь першых дзён вызваленьня рэспублікі ад нямецка-фашыстоўскіх захопнікаў прыступіў да самаадданай аднаўленчай працы ...» І далей, пасьля цэлай тырады падобнай траскатні казённых прапагандовых прыёмаў, крытык ставіць жорсткае абвінавачаньне:

«Нічога гэтага, аднак, ня хоча бачыць К. Буйла. Замкнуўшыся ў шкарлупу сваей «сьвятліцы», яна перастала бачыць багатую й мнагастайную савецкую запраўднасьць, апынулася ў палоне скажоных уяўленьняў аб Савецкай Беларусі, у палоне старадаўных вобразаў, якія даўно ўжо адыйшлі ў нябыт».

Значыцца ў умовах савецкае «свабоды» паэта ня мае права пісаць аб тым, што дыктуе ягонае сэрца, да чаго скланяюцца асаблівасьці ягонага таленту. Не! Ён павінен толькі вульгарна рыфмаваць усе казённыя лёзунгі бальшавіцкай прапаганды за кошт запраўднага паэтыцкага натхненьня. Паэта, як і кажны іншы падсавецкі чалавек, павінен вызбыцца ўсякай індывідуальнасьці, перарадзіўшыся ў бязвольны аўтамат, які павінен бяздушна рухацца на загад партыйнага апарату.

У 1950 г. быў выдадзены зборнік вершаў Буйлы «Сьвітаньне». У ім казённая крытыка знайшла адныя толькі «ідэалягічныя скажэньні», «архаічныя абразы» ды, што найгорш, «нацыяналістычныя ўхілы». Возьмем дзеля прыкладу верш «Мая Беларусь», які выклікае ў бальшавіцкага крытыка цэлы патос абурэньняў:

«Верш запоўнены архаічным паэтычным рэквізытам і выклікае пачуцьцё расчараваньня й пратэсту. Вось некаторыя радкі зь яго:

«Беларусь мая — цёмны, вялікасны бор,<br>Дзе ў гусьцечы курлічуць, пяюць<br>[жураўлі ...<br>Беларусь мая — люстры шырокіх азёр,<br>У якія ўглядаецца неба жывое ...<br>Беларусь мая ў зелені стройных бяроз,<br>Што вядуць ля шырокіх дарог<br>[карагоды ...<br>Беларусь мая — ў росквіце белых садоў,<br>Над ружоваю хусткай празрыстых<br>[туманаў ...<br>Беларусь мая — ветлыя выгляды хат ...<br>Беларусь мая — ветлы, прыхільны<br>[народ ...»

Што-ж у гэтым вершы выклікае ў крытыка «пачуцьцё расчараваньня й пратэсту»? А вось што:

«Гэтую адвечную Беларусь пісьменьніца малюе адзінокай, паза сувязьзю зь вялікім расейскім народам» ... Сьпяўшы шумлівыя дытырамбы на чэсьць «Сталінскай дружбы народаў», бальшавіцкі рэцэнзэнт ня можа ўстрымацца ад абурэньня, што «гэтай дружбы савецкіх народаў чамусьці не заўважае К. Буйла. Больш таго, ад некаторых ейных вершаў вее нацыянальнай абмежаванасьцю, імкненьнем абасобіцца й замкнуцца ў рамках сваей нацыянальнай шкарлупы, імкненьнем ня бачыць таго, што збліжае й злучае ўсе нацыянальнасьці Савецкага Саюзу (ведама, толькі расейшчына «злучае» й «збліжае» гэтыя нацыянальнасьці, — дадамо ад сябе — Ст.-. Пад словам «Радзіма» паэтка разумее ня ўвесь Савецкі Саюз, а толькі Беларусь. Прычым для яе Савецкая Беларусь ня роўна сярод роўных брацкіх рэспублік Савецкага Саюзу, а абасобленая, «прыгажэйшая», «найдаражэйшая», да якой няма роўных.

Жывучы паза межамі Беларусі, у другой савецкай рэспубліцы, К. Буйла пісала ў 1946 г.:

«Зямля мая далёкая,<br>Зямля мая цудоўная,<br>Радзіма сінявокая,<br>Якая-ж табе роўная?<br>Мо ёсьць і прыгажэйшыя, —<br>Каму што ў сьвеце глянецца, —<br>Мая-ж — найдаражэйшаю<br>Да сьмерці мне астанецца.»

Нічога дзіўнага, што падобныя думкі паэткі зьяўляюцца цяжкім праступкам у беларускім нацыяналізьме, бо толькі Расея можа быць «найдаражэйшай» і «найпрыгажэйшай», а ня нейкая там Беларусь, якая, калі-б ня «братняя помач вялікага расейскага народу» й ня «бацькаўскія клопаты вялікага Сталіна», хіба ўжо даўно шчэзла-б з аблічча зямлі.

У зборніку «Сьвітаньне» зьмешчаны разьдзел «Малюнкі прыроды», які, на думку савецкага крытыка, «выклікае законнае абурэньне ў савецкага чытача» (хіба такога, як сам крытык — Ст.). Вось што чытаем аб гэтых вершах:

«Усе гэтыя «малюнкі» напісаныя пасьля вялікай Айчыннай вайны, калі савецкі народ, радасны й натхнёны сваей перамогай, з такой-жа радасьцю прыступіў да мірнай стваральнай працы. Аднак іменна гэтыя гады чамусьці не да спадобы паэтцы. Яна марыць аб нейкай іншай вясьне, аб нейкім іншым шчасьці. Верш «Сягоньня сонца глянула з-за хмар», напісаны ў 1946 г., прасякнуты чужым (у «Зьвязьдзе» проста парасейску — «чуждым» — Ст.) савецкаму народу духам. Паэтка скаржыцца: «І мы пасьля халодных навальніц праменьнямі тваімі не сагрэты». У вершы «Восень» — «аб вясьне прыгожай і далёкай ціха сьніць узораны папар». У вершы «Сакавік» — «сьпіць пад пухкім сьнегам поле, сьніць яно аб новай долі».

Бальшавіцкі крытык, ня могучы апанавацца ад абурэньня, пытаецца: «аб якой «прыгожай і далёкай вясьне», аб якой «новай долі» ідзе гутарка? Савецкі народ з поўным правам называе наш цудоўны час слаўнай вясной камунізму ... З пачуцьцём патрыятычнай гордасьці савецкі народ называе эпоху сацыялізму вясной чалавецтва. Ні аб якой іншай вясьне ён ніколі не марыў (вось дык шчасьлівы гэты савецкі народ!? — Ст.). Якая-ж іншая вясна захапляе К. Буйлу? Такімі-ж настроямі прасякнутыя амаль усе вершы й апошняга разьдзелу кнігі «Сьвітаньне» — «Песьні й думы».

Усе гэтыя й іншыя, тут ня ўспомненыя, напады казённага бальшавіцкага крытыка як ня трэба лепей паказваюць, у якіх жахлівых умовах знаходзяцца беларускія паэты й пісьменьнікі «пад сонцам Сталінскай канстытуцыі», дзе яны мусяць штучна заглушаць голас свайго сэрца, рабіць маральнае самагубства, а пісаць толькі на тыя, хоць чужыя для іх, тэмы, што ім вызначаць «партыя й урад», ды пісаць так, як гэтага вымагае казённая бальшавіцкая крытыка. З артыкулу «Зьвязды» таксама бачым, што К. Буйла, сяньня адзіная побач зь Я. Коласам прадстаўніца беларускае паэзыі яшчэ дабальшавіцкага пэрыяду, знайшла ў сабе столькі мужнасьці й адвагі, каб, паміма жудаснага бальшавіцкага маральнага й фізычнага тэрору, апяваць Беларусь такую, аб якой мроіць і да якой імкнецца ўвесь беларускі народ.

**Ст. Ст.**

# БАЛЬШАВІКІ АТАКУЮЦЬ БНР

(Заканчэньне)

здушэньня савецкай улады. У заяве генэралу Бэртэлё — камандуючаму саюзнымі войскамі на паўдні Расеі — Некрашэвіч выказваў упэўненасьць, што інтэрвэнты не адмовяць беларускім нацыялістым у дапамозе.

Заправілы Антанты запрасілі беларускіх контррэвалюцыянэраў і на Парыскую мірную канфэрэнцыю, дзе хацелі бяз удзелу беларускага народу вырашыць лёс Беларусі, зрабіць яе калёніяй.

Беларускі народ закляйміў ганьбай зрадніцкія дзеяньні буржуазных нацыяналістых, якія прадаліся амэрыканска-ангельскім імпэрыялістым ...»

«Заакіянскія драпежнікі ўзмоцнілі імкненьні выкарыстаць у сваіх мэтах контррэвалюцыю, якая дзеіла на Беларусі. Асаблівую актыўнасьць у гэтай справе праяўляў махровы рэакцыянэр Гэрбэрт Гувэр.

У 1919 годзе ў Таліне зь ініцыятывы Гувэра была праведзена нарада, на якой прысутнічалі пардстаўнікі г. зв. «Амэрыканскай Адміністрацыі Дапамогі» (АРА) і мясцовай белагвардзейшчыны. На нарадзе было пастаноўлена, апіраючыся на мясцовых нацыяналістых і іх «урады», узмоцніць фармаваньне белагвардзейскіх бандаў на тэрыторыі Прыбалтыкі й Беларусі й забясьпечыць іх амэрыканскай зброяй. Атрымаўшы інструкцыі й дапамогу ад сваіх заакіянскіх гаспадароў, «Беларуская Рада» занялася скалочваньнем белагвардзейскіх фармацыяў з розных крымінальных элемэнтаў, белых ахвіцэраў, кулакоў. Яна афіцыяльна аб'явіла аб арганізацыі «беларускага войска». У гэтай аб'яве гаварылася, што **«галоўны штаб будзе знаходзіцца ў Слоніме Горадзенскай губэрні. Утрыманьне, уваружэньне й абмундзіраваньне будзе даваць Антанта ...»**

Усё тое, што рабілі амэрыканцы на Беларусі й для Беларусі, паводля бальшавіцкае газэты, рабілася выключна на шкоду беларускага народу. Гэтак між іншым чытаем:

«Бруднымі справамі займалася ў Беларусі й амэрыканская арганізацыя АРА. Пад выглядам аказаньня дапамогі насельніцтву ўпаўнаважаны АРА ў Менскім раёне. Чарлз М. Вілобі й сябры АРА С. Сміт і Франк Вілі праводзілі шпіёнскую работу й рабілі спэкулятыўныя махінацыі. Яны пастаўлялі ў Беларусь нізкаякасныя матарыялы й сапсаваныя прадукты, купленыя ў Амэрыцы за танную цану або сабраныя з астаткаў ваеннага інтэнданцтва, бралі за іх вялікія грошы, нажываючы на гэтым барышы. Так, сам Вілобі ў вадным зь пісьмаў прызнаваў, што пасланыя Беларусі мэдыкамэнты **«былі купленыя з астачы, якая асталася ад ваеннага інтэнданцтва, а амэрыканскі ўрад закупіў іх на 25 працэнтаў таней іхнага запраўднага кошту».** Налічылі-ж яны на Беларусь за гэтыя мэдыкамэнты 1.750 тысячаў даляраў ...»

«Сваю дзейнасьць амэрыканскія інтэрвэністыя асабліва шырока разгарнулі ў Горадзенскай губэрні. Тут у іх быў створаны цэнтр падрыўной работы супраць саветаў. Тут-жа ўсталявалася й беларуская белагвардзейшчына на чале з Радай і так заным «Міністэрствам беларускіх справаў». У Горадню неаднаразова прыязджалі амэрыканскія ваенныя місыі.

19 сакавіка 1919 г. ў Горадню прыбыла амэрыканская місыя ў складзе чатырох чалавек: маёр Рос, капітан Галістэр, капітан Адж і карэспандэнт газэты «Нью Ёрк Трыбюн» Тубенкін. Місыя прывезла інструкцыі вашынгтонскага ўраду і неадкладна пачала праводзіць іх у дзеяньне. У той-жа дзень на вечары, наладжаным беларускімі нацыяналістымі ў чэсьць сваіх гаспадароў, маёр Рос перадаў указаньні амэрыканскіх кіруючых колаў у справе прыскарэньня арганізацыі «беларускага войска». У прамове на вечары ён цынічна заявіў, што **«пераходзіць у рады гарачых прыхільнікаў і абароньнікаў пакрыўджанага беларускага народу й ягонай дзяржаўнасьці»** (падчыркнута ў «Зьвязьдзе»).

Такія-ж амэрыканскія, ангельскія й францускія місыі часта бывалі й у Коўні і ў Вільні і ў іншых гарадох. З 20 сакавіка ў Коўні два тыдні знаходзілася француская місыя на чале з палкоўнікам Рэбуль. Місыя заявіла, што яна «мае асаблівыя мэты» — г. зн. мэты фармаваньня контррэвалюцыйных аддзелаў для змаганьня з савецкай уладай. Палкоўнік Рэбуль спэцыяльна езьдзіў у Парыж за інструкцыямі да Клемэнсо й Мільерана па «беларускаму пытаньню».

**М. В.**

(Заканчэньне ў наступным нумары)

# Мільены Архіяпіскапа Савы

**(Ад нашага карэспандэнта зь Лёндану)**

Пасьля сьмерці галавы Польскай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы архіяпіскапа Савы выясьніліся досыць цікавыя, а для палякаў прыкрыя справы.

Архіяп. Сава, як ведама, быў заўзятым палянафілам, салідным апорышчам палянізацыі праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў. Апрача таго, што ён праводзіў палянізацыю па лініі царквы, належыў ён да цэлага раду розных польскіх арганізацыяў, а ў тым ліку й да г. зв. «Зьвёнзку Одзысканя Зем Пулноцно-Всодніх». Архіяп. Сава зьяўляўся такасама й сябрам «Рады Народовэй» (эгзыльнага польскага парляманту), на паседжаньні якой і сканаў.

Па сьмерці архіп. Савы ў яго быў знайдзены тэстамант на імя ягонай цёткі — расейскай эмігранткі, пражываючай у вадным з парыскіх азыляў для старых. У працэсе ўстанаўленьня маемасьці нябожчыка Савы дзеля перадачы яе тэстамантаванай ангельскія ўлады ўстанавілі, што архіяп. Сава зьяўляўся собсьнікам рухомага й нярухомага майна на некалькі дзесяткаў мільёнаў (у пераводзе на нямецкія маркі). У самым толькі Лёндане архіяп. Сава зьяўляўся собсьнікам 20 дамоў, апрача гэтага досыць буйныя сумы на ягонае імя знаходзяцца ў ангельскіх ды амэрыканскіх банках. Паўстае найперш вельмі загадковае пытаньне, скуль архіяп. Сава мог за такі кароткі час на эміграцыі сабраць такія буйныя сумы грошаў, каб набыць сабе хоць-бы аж **20 дамоў,** ды дзеля каго й дзеля чаго ён іх набываў?

Цікава пры гэтым адзначыць, што сам нябожчык жыў вельмі бедна, хадзіў у ўбогім убраньні. Цётка, якая жыла ў азылі для старцаў, і якой пакінуў Сава тэстамант, як сваей спадкаемніцы, помачы ад архіяп. Савы на яе просьбу аднойчы не атрымала. На гэтую просьбу архіяп. Сава адказаў адмоўна, выясьняючы, што й ён сам ледзьве з чаго мае пражыць. Але ня гэтыя дэталі прыватнага жыцьця архіяп. Савы нас цікавяць. Найцікавейшым зьяўляецца тое, што хтось архіяп. Саве такія буйныя сумы даваў, а яшчэ цікавейшым ёсьць, каму гэтыя сумы цяпер пападуць?

Згодна тэстаманту сумы гэтыя разам з 20 дамамі павінны былі-б перайсьці тэстаманатаванай цётцы — расейскай нацыяналістцы, адзінокай старусе ці, лепш кажучы, у рукі расейскай белай эміграцыі. Ангельскія аднак улады заквэстыянавалі важнасьць тэстаманту з тае прычыны, што ён быў зроблены бязь сьведкаў і не завераны натарыюсам, чаго для праўнасьці вымагаюць ангельскія законы. Майно гэтае мусіла-б таму перайсьці ў собскасьць ангельскага гаспадарства. Але нябожчык ня быў ангельскім грамадзянінам, дзеля чаго ангельцы гэткай прэтэнсыі ня ставяць. Прэтэндэнтам таму можа выступіць польскі ўрад, падданым якога архіяп. Сава зьяўляўся. Паўстае аднак пытаньне, які польскі ўрад? Эгзыльнага польскага ўраду ў Лёндане, як ведама, Ангельшчына праўна ня вызнае. Праўным такім урадам для Ангельшчыны зьяўляецца сяньняшні ўрад чырвонай Польшчы. З гэтае вось прычыны вельмі занепакоеныя як польскія, так і расейскія колы Лёндану, бо ходзіць справа аб буйных, як бачым, сумах, а таксама й аб вельмі кампрамітуючай справе для самой Аўтакефальнай Польскай Праваслаўнай Царквы.

Не перанялася гэтым толькі група нашых «астроўшчыкаў», якія й далей актыўна дапамагаюць у «вадбудове» польскай праваслаўнай царквы ў Лёндане, узначаленай, пасьля сьмерці архіяп. Савы, япіскапам Мацьвеем, хоць і цэнтральны парахвіяльны будынак папаў у сьпісак тэстаманту нябожчыка Савы, як ягоны (куплены на ягонае імя) собскі дом.

Цікава, чым гэта ўсё скончыцца? Выйграюць справу расейцы ці чырвоная Варшава? **К. Р-іч**

### ПЕРШЫЯ БЕЛАРУСКІЯ НАВУКОВЫЯ КАДРЫ

Беларуская студэнцкая група на ўнівэрсытэце ў Лювэне (Бэльгія) зьяўляецца аднэй з наймалодшых на эміграцыі. У 1950/51 акадэмічным годзе яна налічвала 32 студэнтаў. Аб ейнай гісторыі й разьвіцьці падамо ў вадным з наступных нумароў «Бацькаўшчыны». Тут-жа толькі адцемім, што ў гэтым акадэмічным годзе закончыла свае студыі й атрымала навуковыя дыплёмы 9 беларускіх студэнтаў.

І так у верасьні 1950 г. скончылі: **сп. Людміла Рагуля — ліцэнцыятка фармацыі й сп. Янка Жытка — інжынер хіміі.** У ліпені 1951 г. скончылі: **сп. Барыс Рагуля — доктар мэдыцыны.** У верасьні 1951 г. скончылі: **сп. Зоя Смаршчок — ліцэнцыятка фармацыі, сп. Аўгень Смаршчок — ліцэнцыят псыхалёгіі, сп. Уладзімер Набагез — доктар мэдыцыны, сп. Юрка Лыслаў — доктар мэдыцыны, сп. Міхась Жылік — доктар мэдыцыны.**

Усім скончыўшым вышэйшыя студыі ў Бэльгіі жадаем шмат посьпеху й памыснасьці як у іхнай прафэсыянальнай працы, гэтак і ў нацыянальна-грамадзкай дзейнасьці на беларускай ніве. Галоўнае жадаем маладым беларускім навуковым сілам ад шчырага сэрца, каб яны, ня ў прыклад многім іншым беларускім інтэлігентам, што загразьлі ў вузкім матарыялізьме й у пагоні за собскім дабрабытам і роскашшу, усе свае веды, здольнасьці й магчымасьці прынесьлі ў ахвяры для нацыянальна-вызвольнай справы беларускага народу. Дык віншуем і чакаем пры працы!

На месца закончыўшых студыі прыбылі новыя студэнты: 6 з Ангельшчыны й 1 з Бэльгіі. Такім чынам у бягучым акадэмічным годзе на лювэнскім унівэрсытэце налічваецца 31 беларускіх студэнтаў.

### ПРАДСТАУНІЦТВЫ «БАЦЬКАУШЧЫНЫ» ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:

**1. У Бэльгіі:**
Mr. Karas Leonid, 8, Place Hoover, Louvain, Belgique.

**2. У Ангельшчыне:**
**The Whiteruthenian Editorial Foundation 52, Penn Road, London, N. 7. England.**

**3. У Францыі:**
Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du Ltn. Boncour, Neuilly s/Seine, France.

**4. У ЗША:**
Mr. B. Danilovich,
222 Suydam St. New Brunsvick, N. J., U. S. A.

**5. У Канадзе:**
Mr. Joseph Corny, 270 Clinton Str. Toronto, Ont., Canada.

**6. У Аргентыне:**
Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires. Argentina.

**7. У Аусгралії:**
Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street, East Brisbane, Q-ld, Australia.

**8. У Вэнэцуэлі:**
Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel 74, Caracas, Venezuela.

**9. У Новай Зэляндыі:**
Mr. Karanieuskj Marjan, Burns Izonsc, Mosgiel, New Zeeland.

**Непастрэдна з гэтых прадстауніцтвау просім суродзічау выпісваць «Бацькаушчыну» і там-жа разьлічвацца за газэту.**

**З прычыны дэвізовых абмежаваньнау у Нямеччыне грошы за «Бацькаушчыну» з усіх краінау паза Нямеччынай просім перасылаць на наступны адрас:**

**Mr. Jan Zaprudnik,**

**8, Place Hoover, Louvain, Belgique.**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчамі або ініцыяламі аўтараў, могуць выражаць думкі, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.**